*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990г.)

№ 26(186)

29 чэрвеня 1994 г.

Кошт — 100 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**27 ЧЭРВЕНЯ СПОЎНІЛАСЯ 5 ГАДОЎ ТАВАРЫСТВУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ.** Віншуем усіх руплівцаў на ніве Адраджэння з гэтай датай і жадаем надалей поспехаў у барацьбе за вяртанне беларускай мове яе дзяржаўнасці.

•••

**23 ЧЭРВЕНЯ АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ПЕРШАГА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Напярэдадні другі тур. Прака-муністычная каманда В.Кебіча, здаецца, дагулялася. Не дапамагло ні цалаваннерукі Філарэту, ні чаўночныя залёты да Масквы, ні падачкі старым, ні тэлебачанне з замяталінымі, антановічамі, ды патупамі. Тым не менш: колькі ж яшчэ сярод нас, людзі добрыя, наіўных калгаснікаў!

•••

**БЕЛАРУСЬ БУДЗЕ МЕЦЬ СВАЕ ОРДЭНЫ І МЕДАЛІ.** Якімі ім быць і як называцца, парламентарыі вырашаць на чарговай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якая, як чакаецца, пачне работу ў сярэдзіне ліпеня.

•••

**У БРЭСЦЕ СПРАВА ІДЗЕ ДА АДКРЫЦЦЯ АБЛАСНОГА ДЗЯРЖАЎНАГА ВЫДАВЕЦТВА.** Ідэю мясцовага ўпраўлення інфармацыі падтрымаў абласны выканаўчы камітэт. Нядаўна сваім рашэннем ён зацвердзіў план выдання шэрагу кніг. Сярод іх большая частка — беларускамоўная.

•••

**АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ ПА РАСПРАЦОЎЦЫ СІМВОЛІКІ ДЛЯ УЗБРОЕНЫХ СІЛ І ПАГРАНІЧНЫХ ВОЙСК НАШАЙ КРАІНЫ.** Па змесце прапанаваных узораў членамі камісіі быў зроблены шэраг заўваг, якія рэкамендавана ўнесці да канца чэрвеня.

•••

**САВЕТ МІНІСТРАЎ БЕЛАРУСІ ПАДТРЫМАЎ** прапанову Міністэрства па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі аб стварэнні —у якасці самастойнага падраздзялення ў структуры міністэрства —Фонду па ўладанню і распараджэнню каштоўнымі паперамі.

## ГОСЦІ РЭДАКЦЫІ

**17 чэрвеня г.г.** рэдакцыю «Наша слова» наведалі нашы суродзічы з ЗША — сям'я Кіпеляў. Гэтых людзей добра ведаюць уасяроддзі амерыканскіх беларусаў. А з нядаўняга часу — і на Бацькаўшчыне. Доктар Вітаўт Кіпель — аўтар кнігі «Беларусы ў ЗША», з'яўляецца дырэктарам Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк). Яго жонка Зора рэдагуе старэйшую беларускамоўную газету эміграцыі ўАмерыцы «Беларус». Разам з бацькамі, якія прыбылі на Беларусь для ўдзелу ў навуковых канферэнцыях, знаходзілася іх дачка Алеся. Яна таксама выступала на адной з канферэнцый.

За кубкам гарбаты ў рэдакцыі адбылася размова. Справаздачу аб ёй чытайце ў бліжэйшым нумары.

*Святло на руінах імперый* — Стар. 2

*Мастацтва і культура заўсёды былі ў авангардзе духоўнага адраджэння народа* — Стар. 3

**РЭХА** — **РЭХА**

## КАМУ ВЕРЫЦЬ?

***Старшыня Вярхоўнага Савета Мечыслаў Грыб на пытанне «прамой лініі», якую арганізавала і правяла газета «Звязда», Івана Тышко з Віцебска: «Калі больш**асць прадстаўнікоў вышэйшых уладных структур загаворыць па-беларуску?» адказаў, што Закон аб мовах іх выконваецца згодна з тэрмінамі яго ўвядзення і знаходзіцца на кантролі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета. Але ж факты гавораць зусім аб іншым.***

Нагадаем, што 1 верасня 1993 г. споўнілася 3 гады са дня ўвядзення ў поўным аб'ёме сямі артыкулаў Закона аб мовах: 11. Мова дакументаў, 27. Мова ў сферы культуры, 28. Мова сродкаў масавай інфармацыі, 31. Мова аб'яў і паведамленняў, 32. Мова маркіроўкі тавараў, 35. Мова асабовых імён. Неўзабаве Закону ўжо споўніцца 4 гады, але ж ніводны са згаданых артыкулаў не дзейнічае. Яны проста сабатуюцца чыноўнікамі ўсіх рангаў.

Як вядома, Законам аб мовах прадугледжана, што на працягу трох—пяці гадоў уводзяцца ў дзеянне 4, 7, 12 артыкулы (валоданне дзяржаўнай моваў службовымі асобамі, мова актаў органаў дзяржаўнай улады кіравання, мова з'ездаў, канферэнцый). Гэтыя тэрміны таксама будуць сарваны, калі не прыцягнуць адпаведных кіраўнікоў да адказнасці. Бацька адказвае за выхаванне сям'і, а кіраўнікі дзяржавы — за выхаванне нацыі, а ва ўмовах Беларусі — за выратаванне яе ад канчатковай асіміляцыі.

Падобнае назіраецца і ў тых сферах жыцця, дзе пашырэнне ўжывання беларускай мовы прадугледжана праз 10 гадоў. Толькі адзін прыклад. У 2000 годзе ўсе вышэйшыя навучальныя ўстановы павінны зрабіць першыя выпускі студэнтаў, выхаваных і навучаных у поўным беларускамоўным інфармацыйным асяроддзі. Але ж дзеля гэтага трэба не пазней пачатку бягучага навучальнага года забяспечыць выкладанне усіх прадметаў на першых курсах на нашай дзяржаўнай мове. Між тым вышэйшая школа «спіць» пад рускамоўным панцырам. Перавод вышэйшай адукацыі на беларускую мову будзе спрыяць і нацыянальнаму адраджэнню сярэдняй школы.

Працэс нацыянальнага адраджэння, вяртанне беларусам іх роднай і дзяржаўнай мовы неабходна не фармальна трымаць «на кантролі ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета», а тэрмінова прыступіць да канкрэтных дзеянняў, даць ацэнку канкрэтным кіраўнікам, а не хлусіць сабе і шырокаму колу чытачоў. Тады і Старшыня Савета Міністраў В.Кебіч не будзе выступаць па тэлебачанні за так званае двухмоўе, ігнаруючы 17 артыкул Канстытуцыі. Атрымоўваецца: спадар Кебіч парушае Канстытуцыю, а спадар Генеральны пракурор Беларусі гэтага не заўважае.

Рэальны аналіз ходу выканання Закона дадзены ў дакладзе старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па культуры, гісторыі і захаванні гістарычнай спадчыны Ніла Гілевіча, які быў нядаўна надрукаваны «Народнай газетай». Ацэнка працэсу вяртання беларусам беларускай мовы ў двух старшынь дыяметральна процілеглая. Каму ж павінен верыць чытач?

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны, прафесар.**

*Жыццё Таварыства*

## Каб пашыраліся суполкі ТБМ

28 траўня ў гарадскім Доме культуры Ваўкавыска адбылася раённая канферэнцыя ТБМ імя Ф.Скарыны. Яе работу адкрыў сябар Рэспубліканскай рады ТБМ, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік.

У канферэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі 12 населеных пунктаў Ваўкавыскага раёна, а таксама дэпутаты розных узроўняў. А вось ад гарадскіх і раённых аддзелаў адукацыі і культуры не з'явіўся ніхто, хоць адпаведныя запрашэнні і былі загадзя разасланы.

На канферэнцыі абралі раённую раду ТБМ імя Ф.Скарыны. Старшынёй рады стаў дырэктар Гнезненскай сярэдняй школы Аляксей Сімановіч.

У верасні – кастрычніку бягучага года Гарадзенская абласная рада ТБМ плануе правядзенне раённых канферэнцый ТБМ у большасці раёнаў вобласці. Рух ТБМ павінен стаць масавым. Суполкі Таварыства трэба ствараць у кожным беларускім населеным пункце.

**Я.Г.**

## У Беларускай політэхнічцы не забываюць пра родную культуру і мову

Ужо другі год здаюць кандыдацкія іспыты па беларускай мове аспіранты Беларускай політэхнічнай акадэміі. Сёлета іспыты здавалі 32 чалавекі. Гэта маладыя вучоныя і даследчыкі розных галін навукі: фізікі, матэматыкі, энергетыкі, металазнаўства, робататэхнікі, будаўніцтва і г.д. Трэба сказаць, што двухгадовая праграма курса беларускай мовы даволі складаная. Тут і чысціня гутарковай мовы, законы правапісу, перакладу, навуковая і тэхнічная тэрміналогія, а таксама звесткі па гісторыі беларускай мовы і літаратуры, культуры, этнаграфіі, геаграфіі. Курс вядзе кандыдат філалагічных навук, дацэнт Анатоль Шастаковіч.

І вось іспыты. Сёлета на іх прысутнічаў Старшыня ТБМ рэспублікі паэт Ніл Гілевіч. Хвалявалася маладыя спецыялісты перад высокім госцем, але, развітваючыся, Ніл Сымонавіч даў высокую ацэнку ведаў палітэхнікаў па беларускай мове. А яшчэ пажадаў поспехаў як у навуцы, так і ў паглыбленні гуманітарных ведаў маладым спецыялістам тэхнічнага профілю.

Глыбокімі, змястоўнымі на іспытах прызнаны адказы аспірантаў Сяргея Мажэя, Юрыя Тузкова, Аксаны Сусінай, Лідзіі Патосінай, Валянціна Іванова, Дзмітрыя Кугейка, Вольгі Марач і іншых. Набытыя аспірантамі веды стануць добрым падмуркам у іх беларускамоўнай педагагічнай дзейнасці.

**Таня ЦІМАНІНА,**
**аспірантка.**

# СВЯТЛО НА РУІНАХ ІМПЕРЫЙ

***Беларускі шлях. Гэтыя словы мы разумеем як акрэсленне спосабу пабудовы суверэннай і дэмакратычнай нацыянальнай дзяржавы. Але гісторыя існавання дзяржаўных утварэнняў налічвае тысячагоддзі. Дык ці першыя мы крочым новым шляхам? Хто яны, нашы папярэднікі?***

Магчымыя спробы пошуку аналогій паміж нацыянальна-дзяржаўнымі працэсамі ў Беларусі і ва ўсходнееўрапейскіх краінах могуць быць не вельмі карэктнымі. Усе гэтыя краіны маюць шматвяковую гісторыю існавання ў якасці незалежных нацыянальных дзяржаў. Польшча, Венгрыя, Балгарыя ды іншыя — іх народы захавалі суверэннасць нават у складзе савецкага блока. Беларусь жа, у адрозненне ад іх, да нядаўняга часу нагадвала нават не рэспубліку ў складзе СССР, а калонію Расіі, заваяваную дзвесце гадоў таму. Нават атрыманне незалежнасці нашай краінай адбылося не ў выніку агульнанароднай барацьбы, а як частка працэсу распаду «імперыі зла». Але гісторыя ведае дзесяткі падобных прыкладаў. Так, на працягу менш дваццаці гадоў пасля Другой сусветнай вайны распалася сусветная каланіяльная сістэма, пакінуўшы па сабе мноства незалежных краін.

Лёс усіх калоній падобны. Падобны і шлях, які яны праходзяць, атрымаўшы незалежнасць і спрабуючы распарадзіцца ёю. І галоўнай перашкодай для большасці маладых краін было і ёсць імкненне былых метраполій вярнуць былыя калоніі пад сваё крыло. Найбольш поўна гэтыя памкненні выкладзены ў канцэпцыі, прапанаванай амерыканскім гісторыкам Полам Джонсанам.

Джонсан пачынае з таго, што патрабуе вярнуць адыёзнаму слову «каланіялізм» яго першасны, нададзены яшчэ элінамі, сэнс: распаўсюджванне цывілізацыі з яе атрыбутамі — законам і парадкам. Усе каланізатары былі купцамі. Дзеля поспеху камерцыі ім была патрэбна стабільнасць. У пошуках яе і пачынаўся працэс каланізацыі, у які паступова, часам супраць уласнай волі, уцягвалася метраполія. Канешне, каланізацыя была звязана не толькі з законам, але і з беззаконнем. Але ж адназначна негатыўны сэнс гэтае паняцце набыло толькі ў дваццатым стагоддзі. З аднаго боку, — тлумачыць Джонсан, — гэтаму спрыяла камуністычная ідэалогія з яе ленінскай тэорыяй імперыялізму, а з другога — заходняя ліберальная дактрына. Так ці інакш, да 60-х гадоў працэс дэкаланізацыі практычна адбыўся. Трагічны парадокс, кажа Джонсан, у тым, што якраз у апошнія гады свайго існавання каланіяльная сістэма пачала даваць найлепшы плён. Дасведчаная адміністрацыя кіравала калоніямі з той эфектыўнасцю, аб якой могуць толькі марыць сённяшнія афрыканскія ўрады. Аднак, піша Джонсан, у геапалітыцы, як і паўсюль, панавала мода. У выніку калоніі аддзяліліся ад метраполій. Але паўсюль ад гэтага выйгралі толькі палітыкі і вайскоўцы, але не простыя грамадзяне. Насельніцтва калоній, якія атрымалі незалежнасць, цярпела ад этнічных канфліктаў, голаду, хваробаў. Вінаватымі ў гэтым былі ўрады маладых краін. Адсюль вынікае, — кажа гісторык, — патрэба набрацца мужнасці і зрабіць радыкальную і відавочную выснову: не ўсе краіны гатовы да самакіравання. Шмат якія яшчэ не дараслі да незалежнасці, а без падтрымкі збоку яны, магчыма, ніколі не дасягнуць патрэбнага ўзроўню грамадзянскай свядомасці. Тут, на яго погляд, характэрныя прыклады Ліберыі і Гаіці. Першая краіна незалежная ўжо 150 гадоў, другая — 200, але жыццё ў абедзвюх вельмі цяжкае. Выйсце, кажа Джонсан, у тым, каб пад эгідай ААН усталяваць доўгатэрміновую, у асобных выпадках на 50 альбо 100 гадоў, міжнародную апеку над краінамі, не здольнымі кіраваць сабой. Ажыццяўляць такую апеку павінны не толькі былыя імперскія дзяржавы — Францыя, Англія альбо Расія, але і іншыя, напрыклад, Індыя ці дзяржавы паўднёва-ўсходняй Азіі. Клуб цывілізаваных дзяржаў павінен увесь час пашырацца. Цяжар неакаланіялізму павінен дзяліцца пароўну.

У канцы Джонсан піша: каб здзейсніць гэты грандыёзны план кіраванай гістарычнай эвалюцыі ў маштабе ўсяе планеты, патрэбны гістарычная воля, гатоўнасць да ахвяраў, пачуццё адказнасці, альтруізм: але перш за ўсё — інтэлектуальная чэснасць, якая дазволіць абвергнуць дэмагогію і крывадушнасць і назваць рэчы сваімі імёнамі. Без гуманнага неакаланіялізму Афрыку не ўратаваць.

А, у сваю чаргу, без вайсковага, палітычнага і эканамічнага саюза з Расіяй не ўратаваць Беларусь? Не ўратаваць і Малдову, Грузію, Таджыкістан, Арменію і Азербайджан без умяшання ў іх канфлікты збройных сіл колішняй імперыі? Дагэтуль адзіным спосабам захавання парадку і стабільнасці ў рэспубліках былога СССР шмат хто лічыць іх вяртанне ў склад «адзінай і непадзельнай Расіі». Тое, што ў Афрыцы называлі «місіяй белага чалавека», на адной шостай часткі зямлі абвяшчаецца «гістарычнай адказнасцю Расіі».

Але існуюць і іншыя пункты гледжання на стасункі паміж былымі калоніямі і метраполіямі. У тым, што датычыць спраў Афрыкі, адзін з найбольш радыкальных поглядаў прадстаўлены ў інтэрв'ю карэспандэнта рускай службы Радыё Свабода Раісы Вайль з гісторыкам, прафесарам Пітсбургскага універсітэта Дэнісам Бутусам. Акрамя навуковых прац, Бутус, ураджэнец ПАР, вядомы сваімі выступленнямі супраць расізму, за якія ён знаходзіўся ў зняволенні.

— Прафесар, ці магчыма ў чарадзе афрыканскіх трагедый, апошнія з якіх — Эфіопія, Самалі, Руанда, адшукаць агульную прычыну, мадэль, паводле якой разгортваюцца падзеі?

— Агульнае гістарычнае дасведчанне — вось што іх звязвае. Большасць афрыканскіх краін былі калоніямі — Брытаніі, Францыі, Германіі, Італіі, Іспаніі, Партугаліі... Звычайна краіны-метраполіі, пакідаючы Афрыку, пакідалі там сваю адміністрацыю. Гэта былі ўжо афрыканцы, і абвяшчалася, што яны будуць абараняць інтарэсы простых людзей. Аднак зыход метраполій не толькі не палегчыў, але наадварот — пагоршыў становішча былых калоній. У шмат якіх выпадках для іх гэта стала катастрофай. Выхаваная каланізатарамі, мясцовая адміністрацыя, па сутнасці, абараняла інтарэсы метраполіі. Сітуацыя станавілася пачварнай: эканамічны спад, карупцыя, адсутнасць грамадзянскіх правоў... Усё гэта было атрымана ў спадчыну ад краін-заваёўніц, працягам, толькі ў пагоршаным выглядзе, іхняй каланіяльнай палітыкі. Таму можна зразумець, што стала прычынай згаданых Вамі трагедый.

— Давайце возьмем за прыклад Самалі і Руанду. Што ж у сапраўднасці там адбываецца? Здаецца ж, метраполія не аказвала на іх уціску... Адкуль жа грамадскія забурэнні?

— Самалі, Руанда і Бурундзі толькі апошнім часам заявілі пра сябе. Мы не маем інфармацыі аб тым, што адбывалася там раней і што дзеецца цяпер. Таму лепш гаварыць пра Уганду, кіраваную Амінам, альбо Цэнтральна-афрыканскую Рэспубліку Бакасы, ці аб бесперапынных канфліктах у іншых частках Афрыкі. Найлепшым прыкладам мне падаецца Кенія, аб падзеях у якой існуе мноства публікацый. Яны паведамляюць аб страшэннай карупцыі і сталым парушэнні правоў чалавека ў гэтай краіне. Але паміж гэтымі з'явамі і ранейшым каланіяльным перыядам існуе непасрэдная сувязь. Што датычыць Самалі, дык відавочна, што нафта, на якую багатая гэтая краіна, стала адной з прычын умяшання ў яе справы Захаду. Сёння згаданыя краіны перажываюць перыяд неакаланіялізму, што стала вынікам актыўнага ўплыву на падзеі ў іх краін Захаду.

З аднаго боку, афрыканскія краіны нібыта пакінулі ў супакоі, з другога — не спыняецца эксплуатацыя і ўціск. Толькі цяпер замест метраполіі гэта робіць мясцовая адміністрацыя.

— У сваім артыкуле Пол Джонсан піша, што шмат якія афрыканскія краіны не гатовы да самакіравання. Як Вы ставіцеся да такога выказвання?

— Падобнае меркаванне абсурднае. Увогуле, я лічу працу Джонсана надзвычай небяспечнай. Ён піша, што неакаланіялізм вяртаецца і што Афрыка сустракае яго з радасцю. Адсюль вынікае, што афрыканскія краіны папросту моляць Захад каланізаваць іх зноў. Па-мойму, гэткая думка — унікальны прыклад расісцкага эгаізму. Пол Джонсан адмаўляецца прызнаць, што эканомікі і ўрады афрыканскіх краін небяспечна хісткія з тае прычыны, што ў такім выглядзе іх пакінулі заходнія дзяржавы. Стан палітычнай карупцыі, уціску з боку арміі, парушэння правоў чалавека ў гэтых краінах стварыўся пераважна пад уплывам Захаду. Возьмем, напрыклад, Заір. Па сутнасці, гэта краіна была ўласнасцю бельгійскага караля. Там лютаваў пачварны прыгнёт. Але так адбываецца і цяпер. Чаму? Таму, што гэты рэгіён Афрыкі надзвычай багаты натуральнымі рэсурсамі. Нягледзячы на гэта, краіна знаходзіцца ў цяжкім стане — гэта датычыць і эканомікі, і правоў чалавека. Гэта — спадчына каланіялізму. Забілі Патрыса Лумумбу, які мог прадстаўляць інтарэсы народа, і да ўлады прыйшоў злачынец Мабуту, які калабаруе з Бельгіяй і іншымі еўрапейскімі краінамі, што выказваюць карыслівую цікаўнасць да нібыта незалежнага Заіра. Метраполія ўсяляк дапамагае Мабуту застацца ў ўладзе і забяспечвае яго зброяй, дапамагае змагацца з апазіцыяй. Мабуту — гэта і ёсць спадчына каланіялізму. Таму я жахаюся, калі чую заклікі вярнуцца да каланіяльнай эры.

— Як Вам падаецца, палепшылася ці пагоршылася становішча ў краінах Афрыкі пасля зыходу метраполій?

— Цяжкае пытанне. Яно патрабуе вывучэння сітуацыі ў кожным асобным выпадку.

— Калі ўжо мы пачалі гаварыць пра Конга, дык працягнем. Ці палепшылася жыццё ў гэтай краіне пасля таго, як яна скінула бельгійскае ярмо?

— Я думаю, гэта датычыць нязначнай часткі насельніцтва —эліты, якая кантралюе войска, паліцыю, эканоміку. Большасць жа існуе ў тых жа невыносных умовах, што і дагэтуль. Але гэта не значыць, што нехта хоча вяртання каланіяльнай сістэмы. Чаго хоча народ — гэта трымацца далей і ад каланіялізму, і ад неакаланіялізму.

Бяда маладых незалежных краін Афрыкі — у іх фактычнай залежнасці ад былых метраполій. Ці не ў тым жа бяда Беларусі —суверэннай краіны, што паўстала на руінах савецкай імперыі?

**У.ПАНАДА.**

## *Весткі з Віленшчыны*

***Рада ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага краю выказвае шчырую падзяку руплiўцам адкрыцця гісторыка-этнаграфічнага музея «Засцянковая хатка» ў в.Вашунава Докшыцкага раёна. Сярод іх жыхар в.Свіркі — Генадзь Каросцік.***

***З маленства Гэнюсь — прыхільнік матчынай мовы, народных традыцый, нацыянальнай музыкі і песні, бо выхоўваўся ў сям'і, якая шанавала народныя звычаі і спадчыну. Сярод многіх рэчаў ёсць старадаўняя скрыпка, цымбалы, пастухоў ражок. Сам Генадзь любіць іграць на гармоніку, спяваць беларускія песні, а цяпер пад яго кіраўніцтвам ствараецца вясковы ансамбль народных інструментаў «Засцянковыя музыкі» («Засцянкоўцы»), які ў хуткім часе выступіць у вёсцы Вашунава.***

***Сёлета прыёму на беларускае аддзяленне Віленскага педагагічнага універсітэта не будзе. Такое рашэнне прыняло кіраўніцтва універсітэта.***

***Закончыўся працэс над лідэрам «Единства» Валерыем Івановым і яго паплечнікамі С.Нагорным, А.Кандрашовым, А.Бабылёвым, А.Смоткіным, В.Арловым, В.Шорахавым, Х.Дзагоевым, які пачаўся ў Вільні 30 лістапада 1993 г. Падсудныя абвінавачваліся ў імкненні сілай звергнуць законную ўладу. Усе яны былі арыштаваны пасля правалу жнівеньскага путчу 1991 г.***

***Вярхоўны суд Летувы абвясціў прыгавор: Іванову В. — 3,5 года пазбаўлення волі (за актыўны ўдзел у антыдзяржаўных арганізацыях), А.Кандрашову і С.Нагорнаму — па 1000 і 5000 літаў штрафу, А.Смоткіну — 8 год пазбаўлення волі, астатнім —па 3 гады пазбаўлення волі кожнаму. Да ўсіх асуджаных, акрамя Смоткіна, прыменены закон 1993 г. аб амністыі, ім пакаранне зменшана на 1/3. Паколькі асуджаныя былі арыштаваны з восені 1991 г., то, за выключэннем Смоткіна, яны выйдуць на волю менш чым праз месяц, а В.Іваноў — праз паўгода.***

***Увядзенне візавага рэжыму ўезду ў Беларусь вельмі балюча ўспрымаецца людзьмі, якія непарыўнымі ніцямі звязаны з Беларуссю. Страшэнныя чэргі, нервовыя абставіны... Штодзень выдаецца звыш тысячы візаў, а на чарзе па запісах стаіць каля 20 тысяч асоб, уключаючы і праязджаючых па транзіту праз Беларусь. Пасол В.Вайтовіч абнадзеіў, што ў бліжэйшы час становішча палепшыцца дзякуючы ўдасканаленню працэсу выдачы візаў і некаторых ільготаў.***

Інфармацыйная служба
ТБМ імя Ф.Скарыны
Віленскага краю.

# Вятрак узняў крылле

***У той дзень у Міхася Берната, старшыні Рады Баранавіцкага гарадского аддзялення ТБМ імя Ф.Скарыны, дырэктара музейна-этнаграфічнага комплексу ў вёсцы Русіны, што недалёка ад Баранавіч, я быў другім госцем. Першым прыехаў маёр райаддзела міліцыі разглядаць скаргу Берната: адзін з русінаўскіх жыхароў пагражаў спаліць будынкі.***

Не дай Бог! Тут, на ўскраіне Русінаў, у бярозавым гаі ўжо стаяць: вятрак — ён відаць здалёку, кузня, адрамантаваны будынак, дзе будзе месціцца частка экспазіцыі музея. Я напаткаў Міхася ў варотах сядзібы комплексу, ужо агароджанага жэрдкамі.

— Бачыце, мы ўжо пачалі ладзіць экспазіцыю — пакажам розныя тыпы платоў: частакол, паркан, штакетнік..., — ён вядзе мяне паўз агароджу, што пастаўлена ўзбоч шашы: — Пакуль што толькі тут, на іншыя не хапае сродкаў.

— І керамічны цэх амаль гатовы, — Міхась паказвае мураваны будынак, што стаіць непадалёку. Сапраўды, камяніца выглядае дыхтоўна: з металічнымі шырокімі дзвярыма, з дабудаваным, гэта відаць па цэгле, другім паверхам, дзе ўжо ўстаўлены вокны.

— Як мы пачыналі наладжваць у Баранавічах работу ТБМ, то вырашылі таксама займацца і канкрэтнымі справамі. Сябры прапанавалі зрабіць майстэрню керамічных вырабаў. Мы намерыліся адрадзіць наша традыцыйнае ганчарства, менавіта тое, якое развівалася ў нашым раёне, у прыватнасці ў Ясянцы, што ля мястэчка Гарадзішча. У тым Ясянцы, дзе ў дзеда выхоўваўся малы Яўхім Храбтовіч, славуты збіральнік Шчорсаўскай бібліятэкі. Я расказаў сябрам пра панішчаную, без вокнаў і дзвярэй муравanку ў вёсцы Русіны, дзе калісь месцілася саўгасная кузня. Сябры нашай рады сабралі грошы, каб купіць яе. Прыдбалі мы тыя голыя сцены і сваімі рукамі давялі будынак да ладу. Пасля паглядзелі, што ёсць магчымасць зрабіць яго вышэйшым, і сёлета збудавалі другі паверх.

Куплена ўжо падстанцыя, пастаўлены слупы-апоры, неўзабаве праведзём электрычнасць, паставім печы для абпальвання вырабаў. Прыдбалі ўжо рэчывы для палівы. Найбольш тут папрацавалі Вячаслаў Болбат, Віктар Скок, Віктар Карлінскі. Куплялі і цэглу, і дошкі, і перакрыцці, перавозілі, муравалі. Дзверы металічныя, вокны ўстаўлялі — ўсё зроблена рукамі сяброў ТБМ. Усе грошы, што ўдалося сабраць, ужо патрачаны, і мы часова прыпынілі працу — у роспачы: што рабіць. А, здавалася б, мы на дзяржаву працуем — ствараем рабочыя месцы і адраджаем традыцыі культуры, але падтрымкі ад дзяржавы не маем... Праўда, далучылася фірма «Багрым», якую ўзначальвае сябра рады нашага аддзялення ТБМ Вячаслаў Болбат. Памяшканне цэха заканчвала яе брыгада. Дарэчы, і млын яны дабудоўвалі.

Мы ідзём далей, да ветрака, які зблізку ўражвае сваёй веліччу. Добра відаць, што значная частка шалёўкі млына новая. Па прыступках вонкавай драўлянай лесвіцы мы ўзыходзім да сярэдзіны млына, на вышыню дзесь другога паверха. Міхась адмыкае дзверы... Я ўпершыню бачу гэтыя магутныя драўляныя механізмы ветрака: вялікае, ці не ў два чалавечыя росты, кола, што круціць жорны, з сістэмай прыстасавання для тармажэння яго руху, дубовыя бэльку і слуп з цэлага камля, відаць, 200-гадовага дуба, вялікі верхні камень жорнаў.

Гэты млын — узор беларускай прамысловай архітэктуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя, адрэстаўраваны нядаўна. І трэба сказаць, што з вялікімі цяжкасцямі нам удалося выратаваць яго і зрабіць такім, якім ён быў пабудаваны.

*— Дзе яго адшукалі?*

— Ён стаяў у вёсцы Залюбічы, што цяпер у калгасе «Перамога» Баранавіцкага раёна. Але быў у такім страшэнным стане, і, здавалася, што яго ніхто не ўратуе. Але мне ўдалося ўгаварыць наша мясцовае кіраўніцтва, што мы не павінны губляць нашу спадчыну. Гэта дайшло да розуму і сэрца кіраўнікоў, і яны дапамаглі. Мы перавезлі млын сюды, у Русіны, і пачалі яго ставіць. За якія грошы? Давялося прасіць у прадпрыемстваў, у бізнесменаў, але асноўныя сродкі — аддзела культуры райвыканкама. На рэстаўрацыю сабралі значную суму: купілі матэрыялы, плацілі брыгадзе, якая ўзялася аднаўляць млын. Гэта толькі сябры ТБМ працавалі бясплатна.

*— Уяўляю, як складана было паставіць вятрак.*

— Колькі клопату было з тэхнічнай дакументацыяй. А трэба было шукаць адпаведную драўніну. Але перш мы зрабілі бетонны падмурак. Вячаслаў Болбат, Віктар Скок, Віктар Карлінскі, закасаўшы рукавы, першымі ўзяліся за справу. А ўжо пасля працавала спецыяльная брыгада. А накіроўваць яе работу давялося мне.

*— А якія будынкі яшчэ паставіце?*

— Ужо пабудавалі кузню — памаглі прыхільнікі нашага таварыства. Цяпер шукаем для яе рыштунак. Сябра нашай рады Віктар Карлінскі ахвяруе кавальскі мех, кавадла і молат. А яшчэ плануем з Васілём Дубейкам, намеснікам старшыні раённай рады ТБМ, пошукавыя экскурсіі па вёсках нашага раёна... Мы маем намер паказаць тут бортніцтва, паказаць, як усё гэта рабілася: стаякі-калоды, прыстасаванні...

*— Маеце на прыкмеце сапраўдныя ці будзеце рабіць новыя?*

— Дырэктар Баранавіцкага лясгаса абяцаў прывезці аўтэнтычныя, у якіх яшчэ нядаўна трымалі пчол. І мы таксама будзем мець з іх мёд. Калі ўсё будзе добра, наладзім тут пчэльнік. Паставім яшчэ вяндлярню, азяроды, калодзежы розных тыпаў. Можа, не ўсе выкапаем, але зрубы паставім.

*— А якім ты бачыш гэты музейны комплекс?*

— Гэта будзе асяродак культуры. З другога боку — месца для эстэтычнага выхавання моладзі. І трэцяе: тут мы зможам убачыць і зразумець развіццё нашай земляробчай культуры — частку агульнай культуры нашага народа, што праявілася праз яго талент, розум, здольнасці і ўвасобілася ў канкрэтным: у будынках, у варштатах, у прыладах. Земляробства і яго вынік —я хачу назваць гэта вынаходніцтвам — хлеб далі магчымасць людзям адчуваць сябе людзьмі... Асноўная экспазіцыя будзе месціцца ў былым будынку школы. Гэта ўзор заходнебеларускай архітэктуры 20—30-х гадоў — такіх захавалася няшмат.

Калі сем гадоў таму вызваліўся гэты школьны будынак, я пераконваў мясцовую ўладу, што тут трэба зрабіць музей. Толькі вось цяпер зрушылася. За гэты час падлога і нават частка адной сцяны была знішчана грыбам. І тут працавалі сябры ТБМ, дэпутат гарсавета Северцаў, дэпутат аблсавета Гоўша, Тамара Зверава. Цяпер будынак як след адрамантаваны. Некаму ж трэба давесці да канца пачатую справу. Узяўся я.

*— Дай Божа табе здароўя!*

**Каля таго ветрака ў Русінах быў Здзіслаў СІЦЬКО.**

# Мастацтва і культура заўжды былі ў авангардзе духоўнага адраджэння народа

***Працягваем знаёмства з нашымі суседзямі ў новым памяшканні па вул. Чычэрына, 1, а менавіта з рэдакцыямі газеты «Культура» і часопіса «Мастацтва», а таксама з кафедрамі Беларускай акадэміі мастацтваў, а іх тут дзве — мадэліравання адзення і кінарэжысёраў. Наша карэспандэнтка сустрэлася з загадчыцай кафедры мадэліравання адзення і мастацкага ткацтва мастачкай В.П.БАРТЛАВАЙ.***

**— Валянціна Пятроўна, наша кафедра, здаецца, існуе крыху больш за год. Але ж у Беларусі ўжо даўно наглядаецца развіццё прафесійнага мастацтва на базе нашых нацыянальных строяў. У гэтым накірунку, як мне вядома, вялікую работу правёў мастак Міхась Фёдаравіч Раманюк разам са сваімі аднадумцамі, вынікам чаго стаў, напрыклад, альбом «Беларускае народнае адзенне». Чым тлумачыцца запозненасць у стварэнні кафедры мадэліравання адзення ў Беларускай акадэміі мастацтваў?**

— Тут усё не так проста. У сапраўднасці наша кафедра мае даўнюю гісторыю. У Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце яе стварылі яшчэ ў 1961 годзе. Пачалі рыхтаваць спецыялістаў у галіне мадэліравання касцюмаў, мадэльераў, мастакоў па тэкстылю. Мелі, дарэчы, даволі добную вытворчую базу. Але ў 1977 годзе кафедру перавялі ў Віцебскі тэхналагічны інстытут. Там ёй быў нададзены больш вытворчы накірунак. Выпускнікі, якія закончылі кафедру ў 60-я гады, атрымалі дыпломы мастакоў-мадэльераў і мастакоў па ткацтву, працавалі і працуюць у розных галінах вытворчасці, у вядучых лабараторыях, а таксама ў цэнтры моды. Тым часам у інстытут амаль перастала паступаць творчая моладзь, тыя, у каго былі мастакоўскія здольнасці.

**— Іншымі словамі, атрымаўся нейкі застойны перыяд?**

— Так. Плённа працавала толькі невялікая група мастакоў. Мы ездзілі ў экспедыцыі, вывучалі ўзоры народнага мастацтва, аналізавалі, займаліся даследчай працай. Нас узрушыла багацце нацыянальных скарбаў, якое не скарыстоўвалася ў прафесійным мастацтве. Гэта яшчэ больш стала відавочным, калі мы пачалі ездзіць за мяжу, скажам у тую ж Прыбалтыку, дзе прафесійнае мастацтва набывала натуральнае развіццё на аснове народнага. Група мастакоў пачала ўзнімаць гэтую праблему ў друку. Асабіста мне ўдалося выступіць на XII з'ездзе мастакоў. На нас звярнулі ўвагу і прапанавалі падрыхтаваць праграму, на аснове якой можна было б адкрыць творчую кафедру. Такая праграма была распрацавана ў 1987 годзе. І нарэшце адкрыта аддзяленне праектавання адзення і мастацкага ткацтва пры кафедры керамікі тэатральна-мастацкага інстытута, на якое было залічана шэсць студэнтаў. Першай выкладчыцай стала вядомая беларуская мастачка Вольга Васільеўна Дзёмкіна. Праз год на кафедру запрасілі мяне, а таксама мастачку па габелену Людмілу Іванаўну Пятруль і спецыяліста па касцюмах, супрацоўніка музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Юрыя Аляксандравіча Піскуна. Надышоў той час, калі трэба было пачынаць працаваць самастойна. Урэшце 20 верасня 1993 года на пасяджэнні Навуковай Рады была зацверджана асобная кафедра.

**— А якая яе спецыялізацыя на сёння?**

— У нас два накірункі. Першы — мадэліраванне адзення, другі — тэкстыль. Кожны выкладчык самастойна распрацоўвае сваю праграму. Неабходна, каб з першага курса паслядоўна ішоў працэс развіцця творчасці будучага мастака. Таму мы пачынаем з вывучэння традыцыйнага мастацтва. На першым курсе знаёмім студэнтаў з асновамі кампазіцыі, выкладаем уводзіны ў праектаванне. Другі курс — лагічны працяг першага — базіруецца на вывучэнні матэрыялаў пра розныя накірункі ў развіцці нацыянальнага строя па рэгіёнах. Гэта ў асноўным праца ў музеях. Студэнты таксама займаюцца капіраваннем, перапляценнямі, вышыўкамі. У канцы другога курса яны ўжо робяць частку строя. На трэцім курсе вывучаецца колеразнаўства, пластыка, перспектыва, якія падводзяць да прафесіяналізму. Запрашаюцца выкладчыкі з Беларускага цэнтра моды. У нас выкладае галоўны мастацтвазнавец і мастак-мадэльер Галіна Якаўлеўна Мяшкова. Студэнты пераходзяць да сучаснага мадэліравання, ствараюць сучасныя базавыя калекцыі на трэцім і чацвёртым курсах. Паралельна чытаюцца лекцыі па тэорыі строя.

**— Вы расказалі нам пра нацыянальныя строі. Было б вельмі добра, каб Вы больш падрабязна сказалі, што значыць сучасны беларускі строй, няўжо гэта толькі нейкія вышыўкі, дэталі арнаменту. А якая роля сілуэта? Бо моладзь гэтым цікавіцца, і гэта адзін з метадаў уздзеяння на нацыянальную свядомасць.**

— Сучасны беларускі строй — гэта ў першую чаргу адлюстраванне культуры, густу, працаздольнасці і гармоніі нашага народа. Сілуэт, каларыт, пластычныя рытмы строяў гавораць аб багацейшым скарбу, які мы маем ад нашых продкаў. Адчуваючы гэта, мы стараемся перадаць свае веды і вопыт нашым студэнтам і спадзяёмся і ўпэўнены, што наша праца дасць свой плён на ніве адраджэння нацыянальнай свядомасці народа.

**— Вядома, што Акадэмія мастацтваў зараз лічыцца і па праву грунтоўным асяродкам беларушчыны. Скажыце, калі ласка, як гэта праяўляецца менавіта на Вашай кафедры?**

— Натуральна гэта так, бо мастацтва і культура заўжды былі ў авангардзе духоўнага адраджэння народа.

На нашай кафедры гэта праявілася ў тым, што з самага пачатку нам удалося падабраць кантынгент выкладчыкаў, якія, натуральна, выхаваны і іх мастацкія і жыццёвыя прынцыпы і перакананні грунтуюцца на нацыянальным адраджэнні.

**— Абітурыенты пры паступленні, відаць, ужо маюць нейкую падрыхтоўку па спецыялізацыі?**

— Не. Яны падрыхтаваны па малюнку і жывапісу. Да нас, у асноўным, паступаюць выпускнікі мастацкіх ліцэяў і іншых спецыялізаваных навучальных устаноў.

**— Колькі студэнтаў Вы плануеце прыняць сёлета?**

— Восем чалавек на два аддзяленні: мадэліраванне адзення і тэкстылю.

**— Жадаючых многа?**

— Конкурс вельмі вялікі.

**— Валянціна Пятроўна, а цяпер крыху пра Ваш асабісты творчы шлях.**

— У 1973 годзе я скончыла аддзяленне мадэліравання адзення Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Нейкі час працавала як мастак-мадэльер у Маладзечне на швейнай фабрыцы і паралельна распрацоўвала касцюмы для нашых артыстаў, у прыватнасці для «Песняроў». Потым уладкавалася на працу ў мастацкі фонд Саюза мастакоў Беларусі, база дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва якога ў Барысаве. Там ёсць ткацкі цэх трыкатажнага касцюма. Я пачала распрацоўваць камплекты трыкатажных вырабаў для жанчын. Была прынята ў Саюз мастакоў. Стварыла калекцыю строяў Панямоння. Цяпер захапілася габеленамі. Самастойна асвоіла тэхніку габелена. Маю ўжо шмат работ. Былі асабістыя выставы ў Заслаўі, Ушачах, на Беласточчыне ў Польшчы.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Рубрыку вядзе народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль

*Старыя беларускія гімназіі*

# ВЫКЛАДЧЫКІ КЛЕЦКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ



Лёс звёў мяне з выкладчыкамі былой гімназіі Антонам Міхайлавічам Валынчыкам і Аляксеем Васільевічам Кішкелем, з якімі я, жывучы ў Гродне, сябраваў да апошніх дзён іх жыцця. Сябры мне шмат чаго расказвалі пра калег-настаўнікаў па былой Клецкай гімназіі.

Антон Міхайлавіч Валынчык нарадзіўся 6 ліпеня 1896 года ў сям'і селяніна вёскі Мільканавічы Слонімскага павета. У дзевятнаццаць год ён быў ужо рэгентам вялікага салдацкага хору рускай арміі. Жыццё Валынчыка — доўгае і складанае, ён крыху не дацягнуў да свайго дзевяностагоддзя. Беларускі харавы дырыжор, кампазітар, музычны дзеяч, заслужаны дзеяч культуры БССР, Валынчык валодаў амаль усімі музычнымі інструментамі. Але найбольш паважаў скрыпку і віяланчэль. Вучыўся Антон Міхайлавіч Валынчык у кампазітара А.Туранкова, а таксама ў вядомага харавога дырыжора А.Ягорава. З 1961 па 1963 год быў хормайстрам Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца «Нёман». З 1965 па 1971 год — кіраўніком Гродзенскай народнай харавой капэлы настаўнікаў. З 1961 па 1976 год працаваў загадчыкам кафедры музыкі і спеваў Гродзенскага педінстытута.

Атон Міхайлавіч — не толькі арганізатар добрых хароў, але і выдатны кампазітар, аўтар шматлікіх песень, з іх найбольш вядомыя: «А зязюля кукавала», «Гэй, наперад», «Зайшло ўжо сонейка» на словы Я.Купалы, «Слаўся, народ беларускі» на словы А.Русака і інш.

З Антонам Міхайлавічам я часта сустракаўся, калі ён ішоў са спінінгам, з вудамі і іншымі рыбацкімі прыладамі на Нёман. Апошні раз, згадваю, быў на Каляды ў ягонай кватэры разам з самадзейным кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам. Валынчык тады ўжо цяжка хварэў: перанёс інсульт. Яго жонка Вольга Данілаўна выканала нам песню, якую даўней спявалі гімназісты Клецкай гімназіі кожны дзень перад пачаткам заняткаў і пасля іх: «Вучыся, нябожа, вучэнне — паможа», здаецца, на словы Я.Купалы.



Хаця гэты выдатны дырыжор і кампазітар стараўся прынесці як мага больш карысці роднай Бацькаўшчыне, але наменклатуршчыкі не любілі Антона Міхайлавіча. Так, ён без усякай прычыны быў адхілены ад кіраўніцтва ансамблем песні і танца «Нёман», які меў ганаровае званне народнага. «Прышывалі» яму ярлыкі «неблагонадежный», «националист». Пакрыўджаны ўладамі, ён памёр 13 лістапада 1985 года. Пахаваны на новых могілках г.Гродна. На магіле сёння нават няма помніка, пастаўлены просты жалезны крыж. Жонка яго, сваячка вядомага кампазітара Аляксандра Шыдлоўскага, Вольга Данілаўна жыве на старым месцы, часта ўспамінае Антона Міхайлавіча. Яна і зараз спявае ў царкоўным хоры.



Асабліва блізкія адносіны склаліся ў мяне з былым выкладчыкам Клецкай гімназіі Аляксеем Васільевічам Кішкелем, які вёў родную мову ў малодшых класах. Нарадзіўся ён ў 1889 годзе ў вёсцы Гаркавічы (Польшча), памёр у 1969 годзе. Пазнаёміліся мы яшчэ да 1939 года. Пасля закрыцця Клецкай беларускай гімназіі ён жыў у вёсцы Карозічы Квасаўскай гміны, меў невялікую ўласную краму і гэтым зарабляў на жыццё. Затым пераехаў у Гродна, дзе адкрыў невялічкую сталоўку. Пасля прыходу савецкай улады да пачатку вайны працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Квасаўскай сярэдняй школе Квасаўскага сельсавета Гродзенскага раёна. У перыяд нямецкай акупацыі разам з жонкай і сястрой жыў на хутары ў швагра Антона Гірды каля вёскі Каўпакі Капцёўскай гміны Гродзенскага раёна. Тады і я жыў паблізу гэтых мясцін. Амаль кожны дзень мы сустракаліся. Памятаю, як ён вечарамі расказваў мне аб Клецкай гімназіі. Успамінаў настаўнікаў, у тым ліку і Антона Міхайлавіча Валынчыка. Згадваў, у прыватнасці, як кіраваў той вучнёўскім хорам, якім аўтарытэтам карыстаўся Валынчык сярод беларускага насельніцтва. Асабліва цёпла ўспамінаў Кішкель дырэктара Клецкай гімназіі Рыгора Якубёнка, які выкладаў матэматыку, родную мову і нават цяслярскую справу. Расказваў, як дырэктар самаахвярна ставіўся да выканання сваіх абавязкаў: сам рамантаваў у школе вокны і дзверы, парты.

З хутара Аляксей Васільевіч Кішкель пераехаў у Гродна, купіў там невялікі домік, дзе жыў з жонкай і сёстрамі. Працаваў інспектарам у Гродзенскім раённым аддзеле народнай асветы, але не доўга. Па ілжываму даносу яго вызвалілі па «неблагонадежности» як былога настаўніка Клецкай беларускай гімназіі, гэта значыць, як нацыяналіста.

Доўгі час Кішкель знаходзіўся пад наглядам КДБ. Затым яму неяк удалося ўладкавацца настаўнікам у вячэрнюю школу пажарнай каманды ў Гродне. З гэтай пасады ён і пайшоў на мізэрную пенсію. Працаваў на сваім агародзе, трымаў коз. Затым цяжка захварэў. Доўга ляжаў у пасцелі. Я амаль кожны дзень наведваў яго. У маёй прысутнасці Аляксей Васільевіч і памёр. Пахаваны на старых Занёманскіх могілках.

У мяне захаваліся фотаздымкі Кішкеля тых часоў. На адным з іх ён сядзіць на лавачцы, на другім — сярод вучняў 4-га класа, на трэцім — на з'ездзе настаўнікаў у Клецку. На апошнім здымку Антон Валынчык.

**Апанас ЦЫХУН,**
**заслужаны**
**настаўнік Беларусі.**



ВУЧЫМСЯ

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПАКЛЁП** (ілжывае, несправядлівае абвінавачванне, свядома хлуслівая чутка, якая няславіць каго-н.) *Не веру я таму, што тут напісана. Мана ўсё гэта, паклёп на чэснага чалавека* (Сабаленка), **АБГАВОР** (непраўдзівае абвінавачванне, звычайна пры допыце, на судзе і пад.) *У часе гэтых сесій-збораў Было нямала абгавораў І розных штучак, жартаў, кпінак* (Колас), **НАГАВОР** (ілжывае абвінавачванне ў чым-н., пераважна вуснае) *Сам арышт [Багуцкага], відаць, адбыўся па нагавору Клопікава* (Лынькоў). *[Марына Аляксееўна:] — Нагавор — што смала — нялёгка адмываецца* (Шамякін), **ДАРЭМШЧЫНА** разм. (несправядлівае, дарэмнае абвінавачванне). *— Гэта ж трэба ведаць, столькі мой тата на яго [Якіма] ўсякай дарэмшчыны нагаварыў і ачарніў, а ён хоць бы што* (Купала). *— Ды што-о ты, Васіль! Кінуў бы ўжо гаварыць дарэмшчыну...* (Гартны), **ІНСІНУАЦЫЯ** кніжнае (паклёпніцкія выдумкі пераважна ў друку, у афіцыйных выказваннях з мэтай зганьбіць, зняславіць каго-н.) *Грубыя інсінуацыі.. спалучаюцца з тонкай фальсіфікацыяй* («Вячэрні Мінск»).

**ПАКЛЁПНІК** (той, хто паклёпнічае, распаўсюджвае паклёп) *Валодзя Полаз.. філасофстваваў.. аб нікчэмнасці тых, хто падтрымлівае паклёпнікаў нават у думках* (Шамякін), **ІНСІНУАТАР** кніжн.

**ПАКЛЁПНІЧАЦЬ** *на каго-што* і *без дапасавання* (распаўсюджваць пра каго-н. заведама лжывыя чуткі) *[Бацькі] раптам змянілі тактыку: перасталі лямантаваць і паклёпнічаць на сына* (Машара), **УЗВОДЗІЦЬ ПАКЛЁП** *[Мікулаш Конач:] — На доктара паклёп узводзіць сорам* (Клімковіч), **НАГАВОРВАЦЬ** разм.: *на каго* і *без дап.* (узводзіць на каго-н. дарэмныя абвінавачванні, прыпісваць тое, чаго не было) *Ён [Булай] столькі аддаў і аддае рабоце. А ты нагаворваеш на яго* (Шыцік), **АБГАВОРВАЦЬ** *каго Абгаворваць усіх на допыце,* **ІЛГАЦЬ** на каго і *без дап. Прасіць за тых, хто рэвальверы да чала Твайго высокага спакойна прыстаўлялі, Даносілі, ілгалі, пагражалі Жыццём дзяцей і жонкі* (Лойка), **ХЛУСІЦЬ** *на каго;* разм. *Нашто ж на сябе хлусіць.* — *Зак.:* **Напаклёпнічаць, узвесці паклёп, нагаварыць, абгаварыць, налгаць, нахлусіць.**

**ПАКЛОННІК** (мужчына, які заляцаецца да жанчыны, дзяўчыны) *За букет кветак на развітанне мой дарожны паклоннік усё ж атрымаў мой адрас...* (Васілевіч), **КАВАЛЕР** *У яе аж галава закружылася ад радасці і дух заняўся. Але яе засмучала адно: чаму не ўсе кавалеры нясуць падатак яе хараству?* (Колас), **ЗАЛЁТНІК** (ахвотнік заляцацца да жанчын) *Павалковіч меў добра падвешаны язык і вялікі вопыт старога залётніка* (Машара).

**ПАКОІ** устарэлае (раскошныя жылыя памяшканні ў царскім палацы, багатых панскіх дамах і пад.) — *О, то і пакоі згарэлі? —Згарэлі, пане, начыста, от быццам хто языком злізаў* (Якімовіч), **ПАЛАТЫ** уст. *На палатне адлюстраваны і раскошныя княжэўскія палаты, і шматлікія госці, і дворня грознага гаспадара* (Ліс), **ХАРОМЫ** разм. *—А ўрэшце як сам хочаш, — заключыў бацька, махнуў рукою, падняўся і пасунуўся ў папоўскія харомы* (Колас).

**ПАКОЙ** (асобнае памяшканне для жылля ў кватэры, хаце, адгароджанае сценамі, перагародкамі) *Наталя, увайшоўшы, уключыла святло, і перад маімі вачыма імгненна ажыў прасторны і чысты пакой з двума вокнамі, яшчэ не атынкаваны* (Ракітны), **СВЯТЛІЦА** уст. (светлы, чысты пакой у хаце, прызначаны звычайна для гасцей) *Гэтая прасторная святліца.. і была кватэрай Сашы* (Шамякін). *Пасядзела на кухні ў кутку З дзіцем я — не пусцілі ў святліцу бацькі* (Куляшоў).

3. **ПАКУЛЬ** *часавы злучнік* (указвае на адначасовасць дзеяння або стану галоўнага і даданага сказа) *Пакуль снедалі, на дварэ ўзняўся шалёны вецер* (Чарнышэвіч), **ПОКУЛЬ** разм. *Покуль ішлі змовіны У сузорных высях, Салаўі не ўцямілі — Заручыны справілі, Півам бэзавым упіліся* (Блатун), **ПОКІ** дыялектнае *Не так ужо і позна. Покі вы нарыхтуецеся класціся спаць, я буду дома* (Колас), **У ТОЙ ЧАС, ЯК** *Цяпер ён [Мішка] спакойна спіць, у той час, як яна сціскае зложаныя на грудзях рукі, быццам жадаючы.. не выпусціць сэрца* (Брыль).

4. **ПАКУЛЬ** часавы злучнік (указвае, што дзеянне або стан галоўнага сказа працягваецца да моманту заканчэння дзеяння або стану даданага сказа) *Часамі праводзіць [Данілу] цёмнавокая Мар'яна і доўга стаіць на беразе пад сасною, пакуль не страціць з вачэй чаўна, пакуль той не нырне ў густыя, стромкія цені сосен* (Пестрак), **ПОКУЛЬ** разм. *Там я з пугай-дратаванкай Аж да вечара ад ранку, Покуль мой атрад рагаты Не захоча зноў дахаты..* (Крапіва), **ПОКІ** дыял. *— Уцякай жа за пагодай, Донька маладая, Покі дзень засвеціць ясны, Покі сіл хапае!* (Купала), **ДА ТАГО ЧАСУ, ПАКУЛЬ** *Яны [Саша і Ліда] дурэлі да таго часу, пакуль маці не прыкрыкнула: — Цішэй вы! Пад намі ж людзі жывуць* (Даніленка), **ДА ТОЙ (ТАЕ) ПАРЫ, ПАКУЛЬ** *Сімон лаяўся да тае пары, пакуль самому абрыдла* (Самуйлёнак), **ДАТУЛЬ ПАКУЛЬ** *—Цяпер, — кажа сівы конь, — я сам паеду з табою. А ты глядзі, як сядзеш на кабыліцу, дык бі яе бязменам паміж вушэй. Датуль бі, пакуль яна не спыніцца* (Якімовіч), **КАЛІ** разм. *Цяпер ён [Янка] счакаў, калі яна [суседка] пройдзе, і шпарка пашыбаваў цераз вуліцу* (Лупсякоў).

**ПАКУПЕЦ** (той, хто купляе каго-, што-н.) *Здзівіўся дужа дзед, калі пакупец пачаў адлічваць яму грошы папяровымі маркамі* (Колас), **ПАКУПНІК** *Каля аднае крамы стукаюць у патэльні, каля другой звоняць косамі, — пакупнікоў заклікаюць* (Якімовіч), **КУПЕЦ** *Сюды, на «Конскі базар», з'язджаліся купцы коней* (Хведаровіч). *Пасля заб'юць хату — яе скора не прадасі, купцы адразу не знойдуцца* (Пташнікаў).

*З кнігі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

УДАКЛАДНІМ

# Знакі прыпынку пры паўтарэнні слоў у сказе

1. Словы, якія паўтараюцца ў сказе, часцей за ўсё аддзяляюцца адно ад другога пры дапамозе коскі: *Дождж імжыць, імжыць, імжыць* (Паўлюк Трус). *Скора, скора дзьмухне холад* (Якуб Колас). *Снег болей, болей, болей засыпае ў чыстым полі* (Максім Танк).

**Заўвага 1.** Калі ў сказе паўтараюцца звароткі, выклічнікі і некаторыя часціцы, то паміж імі можа ставіцца не толькі коска, але і клічнік: *Дзвіна, Дзвіна! Люблю ў імгле вячэрняй прыветны ўсплёск тваіх празрыстых вод* (А.Звонак). *Арцём! Арцём! Ці ты тут* (Якуб Колас). *Што! Што!! Мяне не браць!!!* (С.Баранавых).

**Заўвага 2.** Калі паўтараемыя словы інтанацыйна і сэнсава непадзельныя, то паміж імі ставіцца дэфіс: *Груша стаяла ў полі адна-адна* (І.Грамовіч). *Дзень доўгі-доўгі* (Кандрат Крапіва). *Чаго-чаго толькі там няма* (Кузьма Чорны). *Чысцюткай-чысцюткай беллю сняжынкі заслалі навокал палі* (П.Броўка).

2. Калі апошняе з паўтараемых слоў развіваецца залежнымі ад яго словамі, то пры звычайнай інтанацыі яно аддзяляецца ад папярэдніх паўтараемых слоў пры дапамозе коскі: *Пад акном бялеюць кветкі, кветкі восені маёй* (М.Машара). *Недалёка ад вёскі шуміць лес, шуміць працягла і густа* (Якуб Колас). *За вокнамі збіраўся вечар, вечар першых дзён восені* (Кузьма Чорны). *Ноч, цёмная ноч ляжала над лесам* (Якуб Колас). *Доўга, бясконца доўга цягнецца ў садзе ноч* (П.Галавач).

**Заўвага.** Калі развітае паўтараемае слова знаходзіцца ў сярэдзіне сказа і інтанацыйна і сэнсава адасоблена ад яго частак, то яно выдзяляецца коскамі з абодвух бакоў: *Перад Лабановічам усплыў вобраз Ядвісі і зноў аб ёй, толькі аб ёй, пачаў ён думаць* (Якуб Колас). *З-пад лесу на поўдзень, нібы ў пагоні, імчаліся коні, без коннікаў коні, па лузе вячэрнім* (П.Панчанка).

3. Калі паўтараемыя словы звязаны адзіночнымі злучнікамі **і**, **ды** (у значэнні **і**), то коска паміж гэтымі словамі не ставіцца: *Лятуць і лятуць сняжынкі* (П.Броўка). *Кругом была вада і вада* (Янка Маўр). *Хваля паветра дрыжыць і дрыжыць* (Якуб Колас). *Паўзла ды паўзла зямля насустрач фурманцы* (Кузьма Чорны).

**Заўвага.** Калі злучнікі **і**, **ды** далучаюць развітае паўтараемае слова, якое ўдакладняе змест папярэдняга слова, то перад гэтымі злучнікамі заўсёды ставіцца коска: *Я пакахаў цябе з дзяцінства, і пакахаў да слёз!* (Паўлюк Трус). *Грымні ж ты, бура, ды грымні дужэй!* (Якуб Колас).

4. Калі злучнік **і** ўжываецца пры кожным з паўтараемых слоў, тады гэтыя словы аддзяляюцца адно ад другога пры дапамозе коскі: *І гудуць, і гудуць па азімай раллі трактары* (Максім Танк). *І бягуць, і бягуць знекуль хвалі* (М. Машара). *Глуха шэпча лес зялёны, і шуміць ён, і шуміць* (Якуб Колас). Параўн.: *Цёплая летняя ноч павольна апускалася на зямлю і ўсё гусцей і гусцей церушыла над ёю малюпасенькія крупінкі змроку* (Якуб Колас).

5. Калі злучнік і звязвае тры паўтараемыя словы (але перад першым з іх не ставіцца), то гэтыя словы коскамі не аддзяляюцца: *Усё гусцей і гусцей і гусцей сее слёзы туман на палі* (Паўлюк Трус). *А хмары чорныя плылі і плылі і плылі* (Якуб Колас). *Усё шпарчэй і шпарчэй і шпарчэй набірае машына разгон* («Народная творчасць»). Параўн.: *Шкло ўсё звінела, звінела і звінела* (Э.Самуйлёнак).

*(Працяг будзе).*

ХАЧУ ВЕДАЦЬ

***У шостым нумары нашай газеты была надрукавана старонка з «Слоўніка» нашай чытачкі Галіны Кузміч, якая дзеля ўзбагачэння сваёй гутарковай мовы выпісала з вершаў радкі пра зімовыя з'явы. Падобнае робіць і Т.М.Ляхновіч, выкладчыца беларускай мовы Рэчыцкага педагагічнага каледжа. Свае выпіскі яна выкарыстоўвае на занятках, на курсах беларускай мовы і «тое-сёе» прапануе чытачам «Нашага слова».***

## Васількі. Валошкі

*... добра быць коласам; але шчаслівы той,*
*каму давялося быць васільком. Бо нашто*
*каласы, калі няма васількоў?*

**М.Багдановіч. Апокрыф.**

Уладзімір Караткевіч пісаў: «Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі». Яшчэ адным з такіх сімвалаў з'яўляецца кветка васілёк. Апошнім часам гэтая назва выцясняецца назвай «валошка». Але, на жаль, не ўсе ведаюць, што гэтыя назвы сінанімічныя. Хаця апошняя часцей сустракаецца ва ўкраінскай мове.

Васілёк прыйшоў да нас з глыбокай старажытнасці. Шматлікія рэчы, знойдзеныя ў грабніцы Тутанхамона, сведчаць аб тым, з якім клопатам і любоўю праводзілі фараона ў апошні шлях. Але знойдзены ў саркафагу маленькі вяночак з васількоў вельмі ўразіў археолагаў. Кветкі высахлі, але захавалі форму і колер, а паклала іх жонка фараона Анхесенпаамон. Гэтая кветачка дапамагла археолагам вызначыць прыблізна, што Тутанхамон быў пахаваны паміж другой паловай сакавіка і першай паловай красавіка. Менавіта ў гэты час у старажытным Егіпце быў час жніва. Агульнавядома ж, што заўсёды васілёк цвіў і цвіце ў час жніва.

Да нас васілёк трапіў разам з жытам, радзімай якога з'яўляецца Азія. Сіні, як паўднёвае неба, васілёк з'яўляецца пастаянным спадарожнікам жытнёвых палёў.

Паводле старажытнага падання, васількі з'яўляюцца пасланцамі неба да нівы: калі ты не можаш падняцца да мяне, дык я сыду да цябе.

З даўніх часоў ярка-блакітная кветка з незвычайнымі па сваёй форме пялёсткамі ў вялікай пашане ў беларусаў, расійцаў, украінцаў, немцаў, шведаў.

Аднак, нягледзячы на іх прывабнасць, васількоў не любяць земляробы, аратыя, лічачы іх пустазеллем. Васілёк не толькі з'яўляецца пастаянным спадарожнікам жыта і пшаніцы, ён яшчэ прыстасаваўся выспяваць разам з імі, і раздзяліць іх насенне вельмі цяжка. Таму кожны раз вясной насенне васілька разам з зернем трапляе ў глебу, а ў жніўні васілёк зноў у неабсяжным акіяне жытоў і пшаніц.

Спецыялісты сцвярджаюць, што на Беларусі вядомы шэсць відаў васількоў: сіні, лугавы, скабіёзны, фрыгійскі, раскідзісты і рэйнскі. У сусветнай флоры іх налічваецца больш. Усе яны розняцца колерам сваіх пялёсткаў, а некаторыя водарам, але заўсёды застаюцца прывабнымі, пяшчотнымі і любімымі. Ва ўсе часы васількам прысвячалі і прысвячаюць свае натхнёныя радкі нашы паэты.

Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць,
Маркотна між іх я хаджу адзінок,
Аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае
Наш родны, забыты ў цяні васілёк.

*М.БАГДАНОВІЧ.*

Зайздросціць моладзь славе песняроў,
Прызнаных у вёсках, у лясах і ў полі,
Хоць не ўвянчаў іх лаўрам Капітолій.
Мілее ім вянок, што звіты крута
З блакітных васількоў, з зялёнай руты.

*А.МІЦКЕВІЧ. Пан Тадэвуш.*

Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага ўзору,
Цвяток радзімы васілька.

*М.БАГДАНОВІЧ.*

«Ткачыхі слуцкія» свайму паэту
На поясе слязінкі-васількі
Навечна ў бронзе выткалі за гэта.

*Л.ЗУБАРАЎ. М.Багдановічу.*

...Не забуду, як ты,
Што засыпаны крымскай зямлёй.
І прабач за пралескі.
Табе б васількі і рамонкі,
Але доўга яшчэ не цвісці ім
На нашых палях...

*У.КАРАТКЕВІЧ. На роднай магіле.*

Вядома палявому васільку,
Якога і працяг ты і аснова,
Што дадзена табе жывая мова,
Каб мог заняць ты месца ў вянку.

*А.СЕРБАНТОВІЧ. Васількі.*

Дзве пралескі — яе вочкі,
Ці два ў збожжы васілёчкі...

*Я.КУПАЛА. Мая дзяўчынка.*

Аляксей РАГУЛЯ

# БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ?

(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)

Шмат якія пытанні-заданні для вучняў і настаўнікаў нечаканыя. Напрыклад: «Народная філасофія і яе носьбіты ў трылогіі Якуба Коласа «На ростанях». Ні ў падручніках, ні ў іншых праграмах гэтага няма. Ёсць больш простыя — «Вобразы сялян». Вучні могуць пералічыць рысы характару сялян, але ж гэтыя вобразы не для таго створаныя. Сялянскія вобразы, як і ўсе іншыя персанажы, асэнсоўваюцца ў рэчышчы аднаго пытання, можна сказаць, гамлетаўскага пытання: «Быць ці не быць?» Быць ці не быць чалавекам? «Што лепей, што разумней: альбо цярпець удары, каменні, стрэлы яраснага лёсу, альбо ўзброіцца на мора крыўд і знішчыць іх змаганнем» — так у Шэкспіра ставіцца пытанне. А ў Якуба Коласа: быць чалавекам ці апусціцца — жаніцца, пладзіцца, засяляць абывацельскае балота, — стаць абывацелем? Тым абывацелем, абыякавасць якога да нацыянальнай праблемы поўнасцю задавальняе імперскія патрэбы самадзяржаўя. Самадзяржаўе сфармавала сабе інтэлігенцыю, якая яму патрэбная — маральна дэградаваную. Хай п'юць — галоўнае, каб не працавалі на асвету, на культуру, на адраджэнне. Тут заадно вырашаецца філасофская праблема: у чым сэнс чалавечага жыцця? Вырашаецца праблема самарэалізацыі асобы.

У нас сёння шмат гавораць пра прыярытэт асобы і прыярытэт дзяржавы. І часам гавораць, не ўлічваючы нашай спецыфікі —проста выкрыкваюць лозунг: асоба вышэй. Правільна, вышэй, але чым сёння забяспечым гэты прыярытэт? Дзе гарантыя? Якую гарантыю мы даём самарэалізацыі асобы, калі няма нацыянальна-тэрытарыяльнай дзяржавы? Выходзіць, фактычна мы даём гэтай асобе права жыць па-за нормамі этыкі, маралі, палітыкі, па-за нормамі агульначалавечых маральных імператываў. Бо дзяржава якраз і павінна быць пабудавана на прынцыпах маралі. Дзяржава, права, палітыка, этыка — яны павінны дзейнічаць тады, калі маюць пад сабой агульначалавечыя маральныя каштоўнасці. А калі гэтага няма, тады чалавек пазбаўлены дзяржаўнай і прававой гарантыі, выкінуты з сферы грамадскага жыцця.

Дык вось, Лабановіч шукае адказу на пытанне: дзеля чаго жыве чалавек? І ён звяртаецца да адных і да другіх, і да трэціх. І дзе ён знаходзіць адказ? Мне здаецца, што адказ, які ён атрымаў ад бабкі Мар'і, як бы сінтэзуе ўвесь творчы пошук беларускай інтэлігенцыі пачатку XX стагоддзя. Узнікае вобраз дрэва. Калі бабка Мар'я гаворыць, што жывеш як тое дрэва, «бо жывы ў зямлю не палезеш», то Лабановіч паставіць задачу трошкі іншую: жыць як дрэва — значыць цягнуцца рукамі да сонца. Не проста выжыць, а намацаць галінамі сонца. І мне здаецца, што ў гэтым сімволіка-алегарычным вобразе — сутнасць беларускага адраджэння. І яшчэ мне здаецца: гэты ёмкі вобраз характарызуе самае галоўнае, што зроблена Якубам Коласам у беларускай культуры: там, дзе раней быў хаос, пра які пісалі і Багушэвіч, і Янка Купала, і іншыя, — там Якуб Колас як бы знайшоў-стварыў космас. Калі Скарына адкрыў чалавечы космас, то Якуб Колас суаднёс чалавечы космас з прыродным. І ў якасці парадыгмы ўзята прырода. Натуралізм у яго найвышэйшай ступені развіцця. Вось гэты вобраз дрэва ў эпоху дэградацыі культуры, як вобраз вечнага, сусветнага дрэва — першапачатковай мадэлі сусвету, закладзенай яшчэ ў міфалогіі, — тут набывае зусім іншае, вартаснае значэнне. Каб рэалізаваць свой патэнцыял і выраўшыць звышзадачу — дацягнуцца галінамі-рукамі да сонца, —трэба глыбей увайсці каранямі ў зямлю, у нацыянальнае, людское жыццё, у нацыянальную праблематыку. Трэба стварыць нацыянальную дзяржаву — гарант прыярытэту асобы. І тая самая бабка Мар'я, калі яна гаворыць пра дрэва, калі яна кажа:«жывы ў зямлю не палезеш», — яна фактычна адмяжоўваецца ад дэнацыяналізаванай і дэмаралізаванай інтэлігенцыі. Мы бачым гэтую дэнацыяналізаваную,«вызваленую» ад абавязкаў перад Бацькаўшчынай інтэлігенцыю: яна жыўцом і лезе ў зямлю. Яны «Знячулі ў сытнасці, ў віне», — пісаў Янка Купала. Страцілі і талент, і здольнасці, і веды, якія яны некалі атрымалі —атрымалі, стоячы, як сказана зноў-такі ў вершы Коласа, на народных плячах. Выраслі з народных слёз і пра гэта па сутнасці забыліся. Колас па-свойму вырашае праблему «быць альбо не быць» — з улікам нашай беларускай сітуацыі. Літаратуразнаўства, супастаўляючы розныя тыпалагічна блізкія рэчы, узбагачае літаратурны твор.

Я стараўся падказаць, як пазбегнуць прымітыўнага падыходу да літаратурнага твору. Я бачу такі прымітыўны падыход у нават самых модных вытлумачэннях вобразаў «кулакоў» ці «некулакоў»: раней Скуратовічы ці Карчы былі «адмоўныя» за тое, што яны «кулакі», а цяпер яны станоўчыя — за тое, што «гаспадары». Бяда ў тым, што ўсё адно за пункт адліку бярэцца гэта самая катэгорыя:"кулак". Ідуць усё адно ад той мадэлі, ад тых крытэрыяў, што былі вызначаны народнікамі, а потым навязваліся бальшавікамі: кулак, падкулачнік ці яшчэ што-небудзь такое. Думаецца, што гэтыя катэгорыі не з'яўляюцца навуковымі катэгорыямі. А ісці трэба ўсё ж ад агульначалавечай маральнай нормы. Давайце з пункту гледжання агульначалавечых каштоўнасцей пагляддзім на таго ж Яўхіма Глушака. Такіх крытэрыяў Глушакі не вытрымліваюць. Гэтак жа, як і Скуратовічы. Яўхім і Сцяпан Глушакі — сыны аднаго бацькі, але якая розная ў іх арыентацыя! Сцяпан — чалавек духоўна багаты. Ён зусім іншымі вачыма на ўсё глядзіць. Ён, сын кулака, —патэнцыяльна беларускі адраджэнец, бо людскі хлопец, чулы душой.

Дык вось, калі персанажы твораў ацэньваць паводле агульначалавечых каштоўнасцей, то ўбачым, што беларуская літаратура не памылялася ў чалавеказнаўстве, і няма ні падстаў, ні апраўдання для бяздумнай і хуткай змены плюсаў на мінусы пры ацэнках маральных якасцей асобы. А ў нас часам гатовы ўжо перакрэсліць здабыткі і Кузьмы Чорнага, і Аркадзя Куляшова, і Івана Мележа. Трэба ўлічваць і тую абгортку часу, у якую аўтар павінен быў укладваць свае думкі, якую яму час навязвае — хоча ён таго ці не хоча, і рэальныя магчымасці —усё трэба ўлічваць. А што да Чорнага, то я лічу: у нас цяжка каго-небудзь паставіць побач з ім, роўнага па сіле філасофскага асэнсавання рэчаіснасці ва ўмовах 20-х і 30-х гадоў, у эпоху таталітарызму, пісаць такія філасофскія творы! Нават у гады вайны, калі літаратура часам выконвала чыста прагматычную задачу, Кузьма Чорны пісаў раман «Млечны шлях» —суадносіў наш чалавечы шлях з касмічным быццём. А вобраз шляху — успомнім хоць бы і «Новую зямлю» з яе трагічным фіналам і зноў вобразам дарогі, шляху — скразны ў беларускай літаратуры. Як і ў кітайскай філасофіі, у даосізме дао —дарога.

Такія катэгорыі, як шлях, як вобраз «млечнага шляху», вобраз зямлі, далей, паняцце людскасці, я лічу, — катэгорыі метафізічныя, філасофскія, вартасныя катэгорыі, і яны складаюць ядро беларускай літаратуры і культуры ў цэлым. І як бы ні разбуралася беларуская культура — і знутры, і вонкава, тым не менш, адчуванне вось гэтага ядра, можна сказаць, ўратавала нас як нацыю. Уратавала ў тым сэнсе, што ў нас няма такой утапічнай культуры, якая з незвычайнай лёгкасцю абясцэньвае тое, што маем сёння дзеля светлай будучыні.

У нас склаўся кансерватыўны, ахоўны тып мыслення — разам з усёй нашай інертнасцю. Інертнасць — гэта вялікая хіба наша, але такі вось кансерватыўны, ахоўны склад мыслення — гэта вялікі набытак беларускай ментальнасці, беларускага духу. І ашчадныя адносіны да таго, што ёсць, да ўсіх набыткаў: гісторыі, культуры, агульначалавечай цывілізацыі, — наша характэрная асаблівасць. Праўда, усё гэта разбураецца таталітарнай сістэмай бязлітасна.

Дык які ў гэтым сэнсе выбраць арыенцір? «Прайсці праз вернасць» — вернасць самім сабе, асэнсаваную, усвядомленую. Застаючыся вернымі сабе, мы зможам справіцца з чужымі, навязанымі нам догмамі і філасафемамі. Адна з іх — так званае галоўнае пытанне філасофіі, ад вырашэння якога нібыта залежыць уся жыццядзейнасць грамадства.

Думаецца, што ўсё ж галоўная праблема не барацьба паміж матэрыялізмам і ідэалізмам, галоўнай была і застаецца праблема суадносін прыроднага, касмічнага быцця і чалавечага быцця, суадносін прыроднага і чалавечага космасу, супрацоўніцтва творчых сіл прыроды і творчых сіл чалавека. Адсюль і ідзе ў культуры арыентацыя на «млечны шлях» нават тады, калі над беларускай зямлёй стаіць страшная цёмная ноч, калі, як у рамане Кузьмы Чорнага «Млечны шлях», нясе трупным пахам з усіх куткоў зямлі, калі, уласна кажучы, «дажыць да світання»(вобраз з аповесці Васіля Быкава) рэальнаму пакаленню не дадзена. Калі й можна, — дык толькі па-людску памерці на рубяжах змагання, сяк-так перадаючы моўную эстафету наступным пакаленням.

Вось гэта адчуванне шляху, гэтая патрэба суадносіць свой чалавечы шлях з прыродай, гэтае адчуванне ўкаранёнасці чалавека ў космас — гэта, мне здаецца, вельмі важны філасофскі набытак беларускай літаратуры і культуры ў цэлым. І думаецца, што сёння над гэтай праблемай увогуле б'ецца ўсё чалавецтва. Сёння пара памяняць адносіны да прыроды, прагматычныя адносіны — свет перад пагрозай катастрофы.

Складаючы праграму па беларускай літаратуры, я карыстаўся вось такімі мадэлямі. Я лічу, што мы не павінны прыстасоўвацца да заніжаных патрабаванняў, а шукаць методыку, якая б адпавядала ўзроўню нашай культуры. Мы павінны быць вартыя сваіх духоўных здабыткаў. А тое, што вучням гэта незразумела ці цяжка ўсвядоміць, то на гэта я хачу сказаць: калі я чую такія папрокі, то я бачу не што іншае, як спробу апраўдаць сваю інтэлектуальную ляноту. Але ёсць настаўнікі, якія вельмі шчыра ўзяліся за гэтую работу, абрадаваліся новаму.

Мне здаецца, што мы павінны ісці шляхам выяўлення агульнакультуралагічных праблем, бо калі наша літаратуразнаўства не паспрабуе звярнуцца да гэтых праблем, то гэтым самым яно само сябе асудзіць, калі ўжо не асудзіла, на збядненне. А што да метадыкі, дык метадысты ўжо не ведаюць сёння, чым займацца.

У сваёй праграме я прапанаваў тэму «Вобраз беларуса-адраджэнца — лірычнага героя ў паэзіі Максіма Багдановіча». Да гэтай тэмы я раю прыступіць ужо ў 8 класе. Прапаную праграмныя творы, якія даюць магчымасць абагуліць назіранні. Патрэбны супастаўленні хоць бы двух твораў: «Вадзянік» і «Лясун». З гэтага і фармуецца духоўнае аблічча лірычнага героя. Гэта змест яго духоўнага жыцця, змест яго духоўнай эвалюцыі. Пачынаем з Беларусі таямнічай, міфалагічнай, затым ідзе Беларусь гістарычная. Тут ёсць «Слуцкія ткачыхі», «Летапісец», «Кніга», «Безнадзейнасць» («Скарына, доктар лекарскіх навук...») і заканчваецца «Пагоняй». Ад медытацыі да ваяцкай песні — беларускі шлях увогуле філасофскай лірыкі. Ад розуму да дзейнасці, сацыяльнага дзеяння. Гэта другая стадыя самаруху лірычнага героя.

Затым — яшчэ адна: чалавек і космас, навакольны свет. Гэта беларускі пейзаж у «Зімовай дарозе», злучаны з сусветам праз вобраз месяца. У праграме мы знаходзім адпаведныя заданні: «параўнайце вершы «Зімовая дарога» і «Зімой». Адзначце вобразы, з дапамогай якіх перадаецца далучанасць да касмічнага быцця». (А звычайна пераважае дыдактычны метад: «Дакажыце, што там тое і тое... Адзначце вобразы, з дапамогай якіх...) Значыць, каб пачаць аналіз, трэба па меншай меры два блізкія па форме і зместу творы. Але ж мы не прывучаны чытаць творы. Нават настаўнікі прывыклі: прачытаў адну страфу верша — і ўжо пачынаюць аналізаваць. Твор не прачыталі, а ўжо: «які сэнс мае загаловак? альбо — эпіграф?»

У вершах Максіма Багдановіча вырысоўваецца духоўнае аблічча лірычнага героя — адраджэнца ў самым шырокім сэнсе слова. Праз хараство, беларускую міфалогію, гісторыю ідзе самасцвярджэнне асобы ў сусвеце... Паэзія, радасць, маладосць —вось духоўнае аблічча беларуса-адраджэнца.

Асобна паўстае праблема неабходнасці адраджэння паэтычнага эпасу. Такім шляхам пайшлі карэлы, збіраючы эпас «Калевала», амерыканскі пісьменнік Генры Лангфела, які паводле індзейскіх паданняў напісаў «Спеў аб Гаявацe» (перакладзены Аркадзем Куляшовым), у гэтым рэчышчы з'явілася «Новая зямля» Якуба Коласа.

Такі гісторыка-параўнальны, структурна-функцыянальны падыход да твораў беларускай літаратуры — магутны сродак спасціжэння агульначалавечай культуры і сродак пераадолення нашага абласніцкага сіндрому.

